№ 66 Ausgabe B.

# ГОМАН

Бе⁻аруская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты:
на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 66 (262). Год III. Вільня, 23 жніуня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### 22 жніуня.

**Заходні тэатр.**

На поўдня ад Арра англічане пачалі новые вялікіе атакі на шырыні 20 кіл., каторые цэлком адбіты с цяжкімі стратамі. На палудзенным заходзе ад Нуаён у начы мы пакінулі бяз бітвы часьць пазыцый. Між Блеранкур і Эн штурмы ворагаў зламаліся с цяжкімі стратамі.

---

БЭРН. Карэспандэнты англіцкіх газэт у Японіі і Сібіры атрымалі загад апісываць палажэньне чэха-славакоў цёмнымі колерамі, каб давясьці патрэбы выступленьня саюзьнікаў ім на падмогу.

РОСТОУ. Паводлуг апавешчэньня штабу дабравольнай арміі, большэвікі перайшлі пад Кацярынадарам у наступленьне і адкінулі дабравольную армію на поўнач. Казакі пасьля 12-гадзіннай бітвы пакінулі Сімовнікі.

МАСКВА. 20.VIII. «Ізвестія» наказываюць, што народны камісар заграніčных спраў, Чычэрын, зявіў голяндзкаму паслу ў Пецярбурзі:

«Мы прэдлагаем урадам саюзьнікаў свабодны выезд іх дыплёматычных і консульскіх чыноўнікаў с тэй умовай, што наш прэдстаўнік, Літвінов, і ўсе іншые расейскіе офіцыальные асобы заграніцай атрымаюць магчымасьць свабоднага павароту дамоў, у тым ліку, і наш агент Бэйтлер, задзержаны на Мурманскім узьбярэжжы. Афіцэры і салдаты француская ваенная місіі могуць пакінуць Расею, калі расейскім салдатам у Францыі пазволяць вярнуцца ў Расею пад апекай «чырвонага крыжа». Англіцкіе і францускіе грамадзяне, задзержаные ў Расеі, будуць звольнены с тэй умовай, што ня будуць учынены ніякіе крокі проці староннікаў савецкага ўраду ў землях француска-англіцкай і чэска-славацкай окупацыі і ў землях саюзьнікаў. Грамадзяне саюзьніцкіх краёў атрымаюць пазваленьне на выезд з Расіе, калі расейскіе грамадзяне, у тым ліку расейскіе салдаты англіцкай арміі, дастануць пазваленьне на паварот дамоў“.

ГААГА. Разрухі ў Японіі дагэтуль не закончыліся. Рух абхапіў больш за 70 мест. Гэта і ёсьць прычына таго, што ў Владывастоку высадзілося мала войска.

БАЗЭЛЬ. Палкоўнік Эглі пішэ аб амэрыканцах:

«Я перакананы, што цяпер амэрыканцы перад канцом вайны ня могуць стварыць армію, прыгодную да атак у вялікіх разьмерах і да рухомай вайны. У Францыі могуць быць амэрыканскіе салдаты і рэкруты, але не амэрыканскае войска. Вышэйшые францускіе афіцэры думаюць гэтак сама і не ўскладаюць вялікіх надзей на амэрыканскую помач».

ЖЭНЕВА. У часі гутаркі ў францускім парлямэнце аб наборы 1920 году выявілося трагічнае настраеньне францускага народу. У ўсіх прамовах адзначывалі, што гэта — апошняя ахвяра, якую Францыя можэ йшчэ даць. Клемансо сказаў: «Што-ж я магу зрабіць, калі Фош і Пэтэн лічаць канечна патрэбным зрабіць набор зараз-жэ?“.

БЭРЛІН. Першые тры дні кірмашу ў Ніжнім Ноўгарадзі, паводлуг дайшоўшых вестак, вызвалі доўгі сьцяг тэлеграфных і пісьменых пытаньняў аб тавары. Думка аб абмене таварамі вельмі популярная—больш, чым можна было спадзевацца. Глаўные экспонэнты тавараў—Цьвер, Пенза, Саратаў. Пачаліся перэгаворы с прэдстаўнікамі заходняга краю (?), каторы суліць на 100 мільёнаў канаплі і лёну ў замену на іншые тавары, асабліва на пшаніцу і жалеза. Фінляндыя суліць фарбы і аптэчные тавары.. Абарону ладу на кірмашу ўзялі на сябе самі купцы.

ГААГА. «Morning Post» наказываюць з Амэрыкі:

Паводлуг амэрыканскага пагляду, Нямеччына здасца, калі ня здолее далей ваеваць. З гэтай прычыны мірная конфэрэнцыя непатрэбна.. Нямеччына будзе прымушэна прыняць узложэные на яе павіннасьці, або іначэй яе будуць караць далей. Значыць, усе гутаркі аб мірнай конфэрэнцыі не маюць ніякага сэнсу.

БУКАРЭШТ. Жыхары Бэссарабіі абурэны наплывам у яе з Румыніі благіх элемэнтаў, якіе стараюцца ўсім заўладаць дарма. Урадлівая земля і вялікае мінэральные багацьце ждуць толькі капіталаў і паддзержкі гасударствам.

БУКАРЭШТ. У румынскі парлямэнт пададзен запрос аб зруйнаваньні газавых студзен саюзьнікамі ў 1916 гаду.

КІЕУ. Украінская рада міністраў аб'явіла завядзеньне простых тарыфаў на чыгунках між Украінай і цэнтральнымі дзержавамі.

КОПЭНГАГА. Каб даць адпор выцісканьню швэдзкага языка с Фінляндыі, утварыліся тры таварыствы з вялікім капіталам дзеля выкупа зямлі і распрадажы яе швэдзкім селянам.

БЭРЛІН. **Урадова.** У Сяродземным моры затоплено 15.000 тонн.

---

## Беларускіе Вучыцельскіе курсы у Сьвіслачы.

Ад 15 кастрычніка 1818 г. да 15 жніўня 1919 г. ў Беларускай Семінарыі ў Сьвіслачы будзе адбывацца новы элемэнтарны курс для беларускіх вучыцялёў і вучыцеляк.

Адпаведные кандыдаты і кандыдаткі ад 18 да 30 гадоў могуць заяўляцца ў сваіх крэйсамтах, мясцовые—проста ў кіраўніка курсамі, інспэктара Бэндзехі, у Сьвіслачы. Там жэ яны даведаюцца аб варунках прыёму.

---

*Вільня, 23 жніуня 1918.*

У нямецкай вялікай глаўнай кватэры з учасьцем двох імператараў: нямецкага і аўстрыяцкага —адбываюцца вельмі важные нарады. Паміж іншым, там ідзе гутарка аб аканчацельнай разьвязцы польскага пытаньня.

Тэлеграмы ўжо наказалі, што справа вызначэньня кандыдата на польскага караля ўжо скончэна: панаваць у Польшчы будзе аўстрыяцкі эрц-гэрцог Кароль-Стэфан. Гэтак новае Польскае гасударства зьвязываецца супольнай дынастыей з Аўстрыей. З другога боку яно завязывае крэпкую зьвязь з Нямецкай дзержавай у форме эканамічных і мілітарных конвэнцый. Але гэта—толькі адзін с пунктаў абшырнай праграмы адбудовы Польскага каралеўства: для нас, беларусаў, асаблівую вагу ў ёй мае іншы пункт — пункт аб граніцах.

У адным з апошніх нумэроў газэты «Vorwärts» мы чыталі, што палякі ў справе граніц на Усходзе дамагаюцца па меншай меры таго, каб ім была дадзена *беспасрэдная граніца з Расеяй.* Угледаючыся на географічную карту і прымаючы пад увагу, што ўсе землі на ўсход ад лініі Берасьцейскае ўмовы дагэтуль разгледаюцца, як «Расея», мы лёгка ўбачым, што для Польшчы найбліжэйшая дарога ў гэную «Расею» — праз Беларусь, праз адрэзаную Берасьцейскай умовай ад рэшты краю Гродненшчыну між Нёмнам і Пружанамі. Гэта будзе той калідор, які праходзіць між лініей крэпасьцей Горадня — Асавец і прылучэным цяпер да Украіны Бярэсьцем. Ясна, што гутарка польскіх прэдстаўнікоў у нямецкай глаўнай кватэры аб «безпасрэднай польска-расейскай граніцы» — гэта ня што іншае, як новая спроба захапіць пад польскую ўладу нашу беларускую Грэдненшчыну, па меншай меры абнімаючы Бельск, Беласток, Ваўкавыск.

Польскі прэдстаўнік, граф Ронікер, у гутарцы з журналістамі апаведаў, быццам на нарадах у глаўнай кватэры прынят у сваіх асновах праект праграмы, апрацаваны ў Варшаве. Мы ня ведаем, які быў зьмест варшаўскае праграмы, але можэм спадзевацца, што палякі выдзялілі сабе, не шкадуючы, добры кусок Беларусі. Толькі-ж ад праекту да яго спаўненьня—вельмі йшчэ далёка, і мы не паверым, каб прынятые ў нямецкай глаўнай кватэры пункты варшаўскай праграмы абнімалі і захватные апэтыты палякоў на Беларусь. Не паверым, бо прыняцьце такога пункту былобы страшэнным гвалтам над беларускім народам, каторы мае такое-ж самае права на незалежны быт, як і народ польскі, літоўскі, украінскі,—бо на тэй часьці нашае Бацькаўшчыны, каторая папала-бы ў польскую няволю, ніколі не было-бы спакою,—бо народ беларускі, хоць і цёмны, хоць і неарганізаваны, падняўся-бы, як адзін чэлавек, дзеля абароны асновы свайго быту: зямлі, на якую ўжо даўно цікаюць польскіе колоністы. Беларусы ніколі не прыстануць на аддачу іх Польшчы з добрай волі, і ўсякі разьдзел беларускай зямлі мог-бы быць праведзен толькі сілай, толькі гвалтам.

Аднак, як ні непадобна да веры гэткая разьвязка пытаньня аб польскай граніцы на Усходзе, беларусы ў той мамэнт, калі важыцца справа іх будучыны, не павінны сядзець моўчкі. Яны павінны ўсюды, дзе хто жыў, заяўляць свой самы энэргічны пратэст проці польскіх апэтытаў на нашэ адвечнае дабро і на прагавітасьць польскага імпэрыалізму сказаць цьёрдае і важкае «Veto!» *)

---

Францускі журналіст Жорж Б'енэмэ ў газэце Гэрвэ „Victuar“ з 10.VIII. 18. пішэ:

„Расейцы ведаюць вельмі добра, што ніводнага народу нельга прымусіць ізноў прылучыцца да Расеі, або, справядлівей, да Масковіі. Здарэньні паказалі, што ў старане, каротканазыванай „Расея“, ёсьць розные народы—с таго часу, як славалюбная Кацярына захацела ўзяць пад сваю ўласьць усіх русінаў. Масковія—гэта адна рэч, Украіна—другая, не кажучы ўжо аб Фінляндыі, Балтыцкіх землях, Беларусі, Літве, каторые не абмасковіліся і ніколі не хацелі абмасковіцца. Было-бы несправяд-

---

*) Не пазволю!

ліва і неразумна прымушаць гэтые народы нанова злучыцца з Масковіей. Маскоўская дзержава ў апошніе сталецьці гвалтам паняволіла іх,—але гвалт ніколі ня быў законным правам“.

## Палажэньне на Усходзе.

Хмары, якіе зьбіраюцца над большэвіцкай Расеей, прынімаюць усё болей і болей выразные форму. Сьперша гэта былі толькі контрэвалюцыйные выступленьні. Крыху пазьней зусім неўспадзеўкі ўтварыўся варожы расейцам ваенны цэнтр с чэха-славакоў, каторым большэвікі с чыста славянскай гасьціннасьцю пазволілі арганізавацца на Расейскай зямлі. Паждаўшы, рух контррэвалюцыйны і чэскаславацкі зьліліся ў вадно русло і пайшлі пад каманду быўшых саюзьнікаў Расеі, каторые дзеля падмогі ім высадзілі ў паўночнай Расеі і ў Сібіры свае войскі. А скончылося ўсё гэта тым, што саюзьнікі прызналі чэха-славакоў за «ваюючую старану» і пачалі разам з імі паход проці Нямеччыны на землях Расеі.

Апошніе тэлеграмы наказываюць, што Амэрыка разарвала ўсе зносіны з большэвікамі, што пачынаючы с 16 жніўня між Расеей з аднаго боку і Францыей і Англіей—з другога пануе стан вайны, што трэба спадзевацца аб'яўленьня большэвікамі вайны Японіі. І ўсё гэта ясна паказывае, што «саюзьнікі» Расеі хочуць зьнішчыць большэвіцкі ўрад с тэй мэтай, каб падняць Расею проці Нямеччыны і на Расейскай зямлі ўтварыць новы ваенны фронт.

Прызнаньне чэска - славацкіх войск за ваюючую с цэнтральнымі дзержавамі старонку пад той час, як землі абодвых народаў становяць складовую часьць Аўстрыі, толькі пацьверджае непрымірымае становішчэ саюзных дзержаў у справе адносін да сваіх праціўнікаў. Яны, як бачым, зусім выразна стаўляюць сваей мэтай зьнішчэньне Аўстрыі, не кажучы ўжо аб Нямеччыне, каторую даўно пастанавілі разграміць да званьня. Ясна, што пры такіх варунках усе гутаркі аб «пачэсным міры» — толькі пустые словы.

Наадварот: трэба спадзевацца пераносу тэатру вайны ізноў на Усход, на бязмежные абшары Расеі. Пад той час, як на Заходзі вайна, пасьля і так ужо лішня доўгіх наступленьняў і адступленьняў, ізноў з рухомай павінна абярнуцца ў пазыцыйную, мы стаім перад пачаткам новага акту крывавае трагедыі на Усходзе. Расею, разгромленую неўціхаючай унутрэнай барацьбой, жджэ новы разгром ад ваенных опэрацый, якіе лёгка могуць быць вызваны яе быўшымі саюзьнікамі.

Цяпер гожэ прыпомніць, як у часе дыктатуры Керэнскага, калі ў Расеі яшчэ панаваў добры лад і была сіла, на ўсе дамаганьні палажыць канец вайне і замірыцца з немцамі Керэнскій адгаварываўся страхам японскага выступленьня проці Расеі. Керэнскій хацеў далей ваеваць,—і вось рэзультаты гэтага: дзержаўны лад у ёй разваліўся, шмат зямель адпало ад яе, а цяпер на зусім аслабленае цела колішняга волата кідаюцца хмары ня толькі японцаў, але і англічан, французаў, амэрыканцаў і т. д. Вось, рэзультаты вялізарнай палітычнай абмылкі, каторай паправіць ужо нельга...

М. М.

## Ратуйце дзяцей!

Старые грамадзкіе работнікі с кожным годам губляюць свае сілы і зыходзяць у магілу с цьвёрдай верай, што апусьцеўшые месцы займуць прэдстаўнікі нарастаючых новых пакаленьняў, што гэтым новым пакаленьням выпадзе на долю правясьці ў жыцьцё тое, за што іх прадмесьнікі аддалі доўгіе гады цяжкой працы, гады барацьбы за вялікі, сьветлы ідэал духоўнага і матэр'яльнага вызваленьня ўсяго нашага народу.

Гэта датычэцца ня толькі тых, хто працуе дзеля ідэі, дзеля ўсенароднае справы: кожын жывы чэлавек сваей штодзеннай працай для куска хлеба таксама будуе будучыну свайго народу, толькі робіць гэта несьвядома. А кожнае далейшае пакаленьне падхопліває працу вымершага і гэтак паддзержывае неразрыўнасьць творскай працы народаў.

Вось чаму, думаючы аб будучыне беларускага народу, нас так рупіць пытаньне аб патомных пакаленьнях,—аб тым, ці нашы намесьнікі будуць мець даволі сіл, каб на заложэных намі фундамэнтах узвясьці гмах вольнай і шчасьлівай Беларусі. Вось чаму мы так пільна шукаем адказу на пытаньне: якіе будуць тые пакаленьні, што цяпер—на нашых вачох—даходзяць сталых гадоў, што толькі пачалі сьвядома глядзець на сьвет Божы, што йшчэ першые крокі ў сваім жыцьці стаўляюць. І тут ужо нельга дзяліць на народные масы і інтэлігэнцыю: дзеці, якіе сягоньня растуць у селянскай хаце і пасуць сьвіньні, могуць так сама дайсьці навукі і заняць кіраўнічае становішчэ ў сваім грамадзянстве, як і дзеці інтэлігэнтных сямей.

Прачытываючы аддзел кронікі ў розных краёвых газэтах, бачучы дзень у дзень заметкі аб узросьце праступнасьці між вясковай і мястовай моладзьдзю і нават дзяцьмі, у душы родзіцца страх: што дасьць нам гэтае пакаленьне, у каторым творацца зладзейскіе банды з нялетніх хлапцоў і дзеўчат, калі 9-гадовые дзеці ўламываюцца ў дамы і склады, калі чуць не на кожным судзе разгледаюцца справы маладых праступнікаў? Сваркі, баталіі, брахлівые даносы — гэта звычайные здарэньні ў нашых вёсках, і аб іх ужо нават пісаць дадзело. А псаваньне праз злосьць чужога дабра, падпалы і г. п. — гэта ў нас «хлеб штодзенны»...

Так вядзецца на вёсцы,—але і ў месьце ня лепш. Праступнасьць мястовай моладзі, бадай, яшчэ вялікшая, чым вясковай. І інтэлігэнты з гэтага не выключаюцца: даволі прыпомніць сумнае здарэньне ў нашым месьце, Вільні, як на суд быў вызван гімназіст пад абвіненьнем у забойстве дзяўчыны і рабунку...

Гэта—плёны вайны. І вырасьлі яны так буйна ня толькі ў нас: у варшаўскіх газэтах б'юць на трывогу с прычыны нячутага ўзросту праступнасьці нялетніх па ўсей Польшчы. У колёніях для малых праступнікаў і праступніц нехватае месц. Ідзе гутарка аб адкрыцьці асобнага папраўчага дому для інтэлігэнцкіх дзяцей...

З гэтым трэба бароцца ўсімі сіламі. Школа, разумная разрыўка, накланеньне дзіцячага розуму да навукі, да сьветлых ідэалаў—гэта задача нашых народных вучыцялёў. Але гэтага мала: дзеці павінны мець здаровую атмосфэру ў сябе дома. Гэтай атмосфэры яны за час вайны ня мелі: яны чулі тут і аб даносах на сваіх братоў праз злосьць або завісьць, і аб нячутым, безміласэрным абдзіраньні сваіх бліжніх, і аб рабунках ды душагубствах,—дык ці-ж маглі ў іх вытварыцца якіе-колечы моральные асновы?!

Бацькі! Вы многа вінаваты перад сваімі дзяцьмі. Вы павінны адказваць перад Богам і людзьмі за гэтые змалку дзён пакалечэные дзіцячые душы! І вы павінны, пакуль час, адумацца, павінны бараніць сваіх дзетак ад моральнай заразы, бо ў іх—у гэтых падрастаючых пакаленьнях будучына нашага народу і Краю!

*І. Мелешка.*

## У Вільні і ваколіцах.

× **Беларускі тэатр.** Справа Беларускага тэатру стаіць у нас на добрай дарозе. Пытаньне аб рэжысэры разьвязано памысна. Ужо началася работа дзеля падгатоўкі першага выступленьня на сцэне Беларускага Клюбу. У першы чарод мае пайсьці новая арыгінальная беларуская п'еса ў 2 актах „Антось Лата“ Тараса Гушчы. Трэба спадзевацца, што асеньні сэзон пачнецца не пазьней 8 верасьня.

× **Беларускіе школы.** Запіс дзяцей у беларускіе пачатковые школы Беларускага Камітэту яшчэ прынімаецца. Школы знаходзяцца: на сьв. Юрскім пр 44, кв. 18,—для каталікоў і на Аўгустынскім завулку 15,—для праваслаўных. Навука безплатная.

× **Бактэрыолёгічные курсы.** У Коўне, пры Татарскай вул. 2., адкрываюцца пры гыгіенічнай лябораторыі для дам з нашага краю курсы дзеля падгатоўкі іх на асыстэнтак лябораторыі. Навука абнімае ўсе галіны бактэрыолёгіі і сэролёгіі, а такжэ хімію спажыўных прадуктаў. Аб падробнасьцях можна даведацца ў віленскага паветовага доктара, Дамініканска 2.

× **Награда за выкрыцьце.** Пракурор імператарскага акружнага суда ў Вільні суліць награду 2.000 марак за выкрыцьце людзей, падрабляючых «нямецкіе» рублёўкі, і 1.000 марак — за выкрыцьце тых, хто іх шырыць.

× Тэмпэратура. Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 19—20 | + 16,0° | + 11,1° |
| 20—21 | + 18,8° | + 11,0° |
| 21—22 | + 17,2° | + 10,2° |

*Францішк Олехновіч.*

# На Антокалі.

П'еса ў 3 актах са сьпевамі і танцамі.

(Гл. „Гоман“ № 65).

**З'ява 16.**

ТЫЕ-Ж без КЭЛЬНЭРА.

БАРБАРА

(у часе сваркі Ігната с Сьліжыкамі дыскрэтна адыйшла ў бок. Цяпер падходзіць да яго).

Не маркоцься так, пан Ігнат! Глупства мільён! Пражылі вы гэтулькі гадоў без мільёну, дык і цяпер будзеце жыць так сама! Ці-ж грошы—гэта ўсё на сьвеце? Есьць прыемнасьці, каторые можна мець і не маючы грошы.

ІГНАТ.

Ах, паненка! Я меў думку, што буду мець свой куток, сваю жонку, сваіх дзетак... Так я жадаў гэтага! А вось мушу ізноў як той безпанскі сабака жыць адзін на сьвеце, выціраць чужые куты! Нікагусенькі блізкога. Ні радні, ні жонкі, німашака да каго зьвярнуцца, слова сказаць... Усюды людзі чужые! Кожны мае ўласные клопаты, якое каму дзела, што ў мяне ў душы! — Адзін, заўсёды адзін, як той кол...

БАРБАРА.

Ці-ж каб мець свой куток, радню канечна трэба гэтак многа грошы?

ІГНАТ.

Ды не! Але вы-ж самі чулі, што мне сказала панна Зося...

БАРБАРА.

Ах, Божухна! Ці-ж толькі адна Зося на сьвеце! Гэтулькі ёсьць дзеўчат! І шмат ёсьць такіх, каторые пашлі-б замуж за вас з ахвотай, каб вы толькі хацелі.

ІГНАТ.

О, паненка! Цяпер ужо вельмі трудна! я ўжо не мапады!

БАРБАРА.

Дык на што вам канечна шукаць сабе маладую? Маладая шукае моладасьці!.. Выбачайце, што я лезу не ў сваё дзела, але Зоська для вас надта маладая. Вы маглі-б знайсьці жонку трохі старшую, разумную, каторая ніколі вас не пакіне і будзе кахаючай добрай прыяцелькай вашай да самае смерці!.

ІГНАТ.

Дзе шукаць такой?.. Е, не кажэце гэтага!.. Німа! німашака такіх! Для мяне ўжо нічога ў жыцьці німа, толькі праца і адзінота! (Да сябе): Без патрэбы патраціў грошы на шмараваньне лысіны!..

БАРБАРА.

Не кажэце так! Трэба толькі добра паглядзець, а заўсёды такая жонка знойдзецца.

ІГНАТ.

Не, не, не...

БАРБАРА.

Нават німа патрэбы вельмі доўга шукаць. Мо' тая, што пайшла-б з ахвотай за вас замуж і была-б асалодай вашага жыцьця—мо' блізка?

ІГНАТ.

Не, німашака!..

БАРБАРА.

А я ведаю адну, каторая была-б як раз для вас, як раз такая, як я казала.

ІГНАТ (падымае вочы).

Ведаеце? Дзе-ж яна?

БАРБАРА.

Дзе? Надта блізка.

ІГНАТ (не разумеючы).

Дзе? у Вільні?

БАРБАРА.

Яшчэ бліжэй.

ІГНАТ (я. в.).

Дзе? тутака—ў Вэрках?

БАРБАРА (спушчаючы вочы).

Але.

ІГНАТ (я.-в.).

Хто?

БАРБАРА.

Ці вы яе не бачыце?

ІГНАТ

(радасна зьдзівіўшыся).

Хто? вы—панечка?!

БАРБАРА (я. в.).

Ня ведаю...

ІГНАТ

(хапае яе за руку і цалуе).

Панечка! ці-ж гэта праўда? А я не адважыўся нават думаць аб гэтым! Вы заўсёды былі такая недаступная, мне здавалося, што вы сьмяяліся бы з мяне, каб я...

БАРБАРА.

Гэта вам толькі так здавалося. Кабета маіх гадоў павінна заўсёды таіцца с сваімі думкамі і жаданьнямі, каб ня быць сьмешнай... Бо што можна маладой, таго нельга старой, а я ўжо не маладая, пан Ігнат.

